

# Голас часу

1998 г. СТУДЗЕНЬ 14 СЕРАДА

№ 3 (5730)

Цана 1000 руб.

Грамадска-палітычная газета Маларыцкага раёна. Выдаецца з 2 жніўня 1945 года.

## АТРЫМАЛІ МЕДАЛІ МАРШАЛА ЖУКАВА

**Першым пісьмом, якое рэдакцыя атрымала ў новым годзе, было пісьмо 80-гадовага жыхара Масевіч Сяргея Васільевіча Трафімука. Прызнацца, вельмі прыемна, што Сяргей Васільевіч у такім узросце яшчэ не толькі выпісвае, але і чытае нашу газету. А самае галоўнае, як піша сам С. В. Трафімук, яна навучыла яго чытаць па-беларуску.**

«...За тыдзень да новага года ветэранам вайны ўручаліся медалі Маршала Жукава. Прыемна было атрымаць такую ўзнагароду, ды яшчэ і перад вялікімі святамі.

Уручалі медалі старшыня Велікарыцкага сельвыканкама Сцяпан Васільеў і старшыня нашага калгаса Віктар Кірычун. А акрамя іх, выдалі кожнаму з ветэранаў і грашовую прэмію. І хоць яна не надта вялікая, усё роўна было вельмі прыемна, што пра нас не забываюць.

Пасля так званай урачыстай часткі для ветэранаў быў паказаны канцэрт, які рыхтавалі аматары мастацкай самадзейнасці калгаса разам з загадчыцай сельскага клуба Святланай Лойка.

Удзельнікі канцэрта падрыхтавалі вельмі вясёлую праграму, у якой гучалі песні: нашы, беларускія народныя, украінскія. Цудоўна грае на баяне добра вядомы ў тутэйшай акрузе Уладзімір Федарук. Проста зачароўвала сваімі песнямі і ігрой таксама на баяне Ірына Валынчук».

Далей у сваім пісьме ад імя працаўнікоў калгаса С. В. Трафімук выказвае ўдзячнасць работнікам мясцовага аддзялення сувязі, у прыватнасці, загадчыцы яго Веры Барысюк, паштальёнам Вользе Валынчук, Ніне Лаўрынюк, Надзеі Церашчук, якія ўсяляк стараюцца добра выконваць свае абавязкі, аператыўна абслугоўваць кліентаў.

Шмат цёплых слоў ад імя сваіх землякоў адрасуе наш чытач і кіраўнікам калгаса: старшыні Віктару Кірычуну і яга намесніку Пятру Наўросю. Як піша С. В. Трафімук, іх паважаюць калгаснікі за тое, што не пакідаюць без увагі ніводнай просьбы.

Што наогул характэрна для С. В. Трафімука? Калі меркаваць па яго пісьмах у рэдакцыю, ён здольны заўважаць у людзях добрае, калі такое ў іх ёсць.

«Калі бываю ў Маларыце, абавязкова заходжу ў магазін «Мяса-малако». Як там заўсёды чыста і ўтульна! А якія ветлівыя і спрытныя прадаўцы тут працуюць! Я думаю, што яны ніколі нікога не пакрыўдзілі, не зняважылі. Словам, яны не здольны на такое».

**Падрыхтавала Ірына КАСЦЕВІЧ.**



Наталля Міхайлаўна Дацык пасля заканчэння Брэсцкага дзяржуніверсітэта па спецыяльнасці біёлаг-географ другі год працуе ў Хмялёўскай базавай школе. Гэтую маладую настаўніцу, як адзначыла дырэктар Валянціна Емяльянаўна Курдзюк, адрозніваюць працавітасць, вельмі адказны і творчы падыход да сваёй работы. І, бадай што, галоўная рыса характару Наталлі Міхайлаўны як чалавека, настаўніцы заключаецца ў тым, што яе заўсёды вызначае непадробленая добрасумленнасць ва ўсіх справах.

**НА ЗДЫМКУ: настаўніца Хмялёўскай БШ Наталля Міхайлаўна ДАЦЫК.**

**Фота Аляксея ГАНЧУКА.**

ЧЫТАЧ ХОЧА ВЫСВЕТЛІЦЬ

## ЦІ МАЮ ПРАВА НА ВОДПУСК?

***«Шмат гадоў прапрацаваў я тэхнікам-асемянатарам у калгасе «Чырвоны партызан». У водпуску знаходзіўся мала. Увесь час мне выплачвалі кампенсацыю. У красавіку 1997 года вырашыў з работы звольніцца, напісаўшы пры гэтым дзве заявы: адну на выплату кампенсацыі за нявыкарыстаны водпуск у 1996 годзе, а другую - на водпуск за 1997 год.***

***Першую просьбу задаволілі, а наконт другой эканаміст калгаса сказала, што мне водпуск не належыць, таму што я звальняюся.***

***Прашу рэдакцыю высветліць маё пытанне ў кампетэнтных спецыялістаў і даць адказ: ці маю права на водпуск?***

***Іван Міхальчук, в. Лукава.»***

*Адказаць на пытанне, якое хоча высветліць наш чытач, рэдакцыя папрасіла памочніка пракурора раёна Іну Клышпач:*

*- Як вядома, у адпаведнасці з арт. 71 КЗаП нашай рэспублікі за першы год работы водпуск даецца работнікам пасля 11 месяцаў бесперапыннай работы ў наймальніка. Водпуск за другі і наступныя гады можа быць дадзены ў любы час рабочага года, у адпаведнасці з чарговасцю прадастаўлення водпускаў.*

*У стаж работы згодна з арт. 72 КЗаП РБ, што дае права на водпуск, уключаюцца:*

*1. Фактычна прапрацаваны час;*

*2. Час, калі работнік фактычна не працаваў, але за ім захоўваліся месца работы і заработная плата;*

*3. Іншыя перыяды часу, прадугледжаныя заканадаўствам.*

*У адпаведнасці з арт. 75 КЗаП РБ па пісьмовай заяве работніка, а таксама па ўзгадненні з наймальнікам штогадовы водпуск (за выключэннем 6 рабочых дзён) замяняецца грашовай кампенсацыяй.*

*Згодна з арт. 74 КЗаП РБ забараняецца непрадастаўленне водпуску на працягу двух гадоў запар.*

**АД РЭДАКЦЫІ.** Карэспандэнт удакладніла пытанне І. М. Міхальчука ў інспектара па кадрах калгаса «Чырвоны партызан». Спецыяліст растлумачыла, што Іван Мікалаевіч напісаў заяву на выплату яму кампенсацыі за нявыкарыстаны водпуск у 1996 годзе. Калі ў яго ёсць жаданне і неабходнасць, той жа І. М. Міхальчук можа напісаць заяву на водпуск за 1997 год. Праўда, у адпаведнасці з арт. 72 КЗаП нашай рэспублікі ён мае права не на ўвесь водпуск, а толькі за час, на працягу якога фактычна працаваў ці за 4 месяцы: са студзеня па красавік.

Калі такой неабходнасці няма, І. М. Міхальчук зноў жа мае права атрымаць грашовую кампенсацыю за нявыкарыстаныя дні водпуску ў момант разліку.

**Падрыхтавала Ірына КАСЦЕВІЧ.**

## ТОРТ З ПЯЦЦЮ СВЕЧКАМІ АД БЫЛОЙ НАСТАЎНІЦЫ

ЮБІЛЕІ

У той суботні дзень, калі ва ўсіх школах ішлі заняткі, у трэцяй святкавалі. Дарэчы, кожны год 11 студзеня тут не вучацца - гэтая дата - дзень нараджэння школы. А тут юбілей, да яго доўга рыхтаваліся. І калі ўжо школа з'яўляецца своеасаблівай маленькай краінай, дык тут вырашылі стварыць сваю эмблему, дэвіз, гімн, з прадстаўлення якіх і пачалося святкаванне юбілею.

Школе - 5 гадоў. Прамежак часу невялікі. Гэта толькі чарговая вяха на шляху да новых вяршынь. Як вядома, твар школы - гэта яе вучні. 199 выпускнікоў за гэты час засталіся па-за сценамі школы ўжо. 16 з іх атрымалі атэстаты асобага ўзору. Многія вучні - пераможцы і прызёры абласных і раённых алімпіяд. І нават некаторыя з іх у той дзень не былі на святкаванні, таму што ўдзельнічалі ў абласных прадметных алімпіядах разам са сваімі настаўнікамі. Апошнія, дарэчы, у якасці членаў журы. Гэта таксама сведчыць аб высокай кваліфікацыі педагогаў. У школе створаны цудоўныя кабінеты інфарматыкі, матэматыкі, хіміі, геаграфіі, замежнай мовы, ёсць выдатныя дзве спартыўныя залы.

Настаўніцкі калектыў - гэты 74 выкладчыкі і выхавацелі. У асноўным з дзецьмі працуюць маладыя педагогі. Толькі 5 месяцаў назад уліўся ў калектыў выпускнік Брэсцкага педагагічнага універсітэта Мікалай Навумчык, а яму здаецца, як сказаў ён, выступаючы на ўрачыстым сходзе, што працуе тут усе 5 гадоў. Так лёгка і адразу «прыжыўся» ён сярод педагогаў. За гэты час малады настаўнік стварыў цудоўны кабінет беларускай мовы і літаратуры, а ў галаве яго - яшчэ мора задум, таму што ў маладога педагога планы напалеонаўскія і вялікая да працы любоў.

Маладым працуецца лёгка, таму што побач заўсёды пляча старэйшых. Колькі цёплых слоў было сказана ў адрас Галіны Аляксандраўны Пігулеўскай, Кацярыны Васільеўны Пацяюк, Марыі Пятроўны Федарук, Алы Міхайлаўны Піваваравай, Леаніда Васільевіча Касьяна і іншых вопытных настаўнікаў, у якіх шмат паслядоўнікаў, што вучацца цяпер у педагагічных вузах.

Калі да трыбуны падышла Галіна Аляксандраўна Пігулеўская і пачала гаварыць, зала сціхла. Мне чамусьці падумалася, што менавіта такая цішыня пануе і на ўроках гэтай настаўніцы, таму што ўмее яна навучыць «грызці навуку», чым і выклікае павагу да сябе і сяроД вучняў, і сярод калег. За плячыма яе - 40 гадоў настаўніцкай працы, 38 з іх - на адным месцы - у школе N 2, а потым у трэцяй (школа-юбіляр была створана ў асноўным на базе другой: сюды перайшлі многія настаўнікі і вучні). Дык вось Галіна Аляксандраўна вельмі ўдзячна калектыву, які падтрымаў яе ў цяжкія хвіліны мацярынскага гора, яна даўно на пенсіі, але працягвае працаваць. І са школай будзе доўга яшчэ звязана сэрца настаўніцы - тут вучыцца яе маленькі ўнук.

Многія настаўнікі прысутнічалі на юбілеі ў якасці гасцей ужо. Проста некаторым давялося перайсці на іншыя месцы работы, другія ж пайшлі на пенсію, як Яніна Іосіфаўна Юралайц, напрыклад. Прозвішча гэтай настаўніцы вядома як прозвішча аднаго з лепшых лінгвістаў у нашым раёне. Для мяне ж асабіста - гэта яшчэ надзвычай абаяльная жанчына, прыгожай душы чалавек, інтэлектуал, інтэлігент, цікавейшы субяседнік. Яна не магла не падзякаваць школе за тое, як за такі кароткі тэрмін - за 5 гадоў - тут з'явілася столькі зялёных насаджэнняў, што сведчыць аб тым, колькі працы ўкладзена ва ўсё гэта! «І невыпадкова, відаць, - гаварыла яна, тонка падмеціўшы, - што на школьнай эмблеме побач з другімі сімваламі школьнага жыцця намалявана і палівачка, якая сімвалізуе працу, любоў да яе юнай душы». Яніна Іосіфаўна спецыяльна да свята спякла цудоўнейшы юбілейны торт, на якім гарэлі 5 свечак. Патушыць іх яна прапанавала капітану настаўніцкага карабля Івану Барысавічу Шышуку, выказаўшы пры гэтым пажаданні, каб яму давялося яшчэ патушыць столькі свечак, толькі з нулём. Жарт, але цёплы і прыемны.

Вялікая група настаўнікаў і работнікаў школы была ўзнагароджана Ганаровымі граматамі і грашовымі прэміямі. Свае, відаць, першыя ў жыцці зарплаты за поспехі ў вучобе і спорце атрымалі лепшыя вучні школы.

А яшчэ юбілей быў адзначаны вялікім канцэртам, які падрыхтавалі вучні школы і іх аднагодкі з першай і другой школ горада. Прыехаўшы са сталіцы на канікулы да бацькоў, не мог не прыйсці сюды і былы вучань многіх цяперашніх настаўнікаў - Саша Масяйчук, музычна адораны і таленавіты некалі падлетак, а цяпер студэнт Беларускай Акадэміі музыкі. Саша, зразумела ж, прыхапіў з сабою баян. Слухаючы яго з пранікнёным пачуццём, упэўнена, што многія былыя Сашыны педагогі былі перакананы: як таленавіты музыкант, цудоўны прафесіянал Саша адбыўся. Калі ён пакідаў сцэну, зала вітала яго стоячы, схіляючыся перад яго выканаўчым майстэрствам.

Яшчэ раз дазволю сабе паўтарыцца: твар школы - яе вучні, яе выпускнікі. Паболей табе такіх, як Саша Масяйчук, сярэдняя школа N 3! І яшчэ раз з юбілеем!

**Ніна СВІЦЮК.**

## ПСІХОЛАГ АЛЕНА НЕКРАШЭЎСКАЯ:

# «МАЯ ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА - ДАПАМАГЧЫ ЧАЛАВЕКУ СПРАВІЦЦА З ПРАБЛЕМАЙ»



***У наш час паўсюднай электронікі і самых сучасных сродкаў сувязі, мітусні, а для некага проста барацьбы за выжыванне, нягледзячы на, здавалася б, дастатковую колькасць інфармацыі і ачагоў культуры і адпачынку, чалавек нярэдка, як гэта ні дзіўна, застаецца адзін, застаецца сам-насам са сваімі набалелымі праблемамі ці трапляе ў сітуацыю, калі побач няма блізкага чалавека, які б мог цалкам зразумець. Каб хоць часткова здымаць такія складанасці, паўсюдна былі створаны розныя псіхалагічныя службы. У мінулым годзе адбыўся чарговы выпуск псіхолагаў у Брэсцкім дзяржуніверсітэце. Выпускніца факультэта, малырытчанка Алена Анатольеўна Некрашэўская пачала працаваць ў СШ N 1 і з'яўляецца пакуль адзіным псіхолагам у нашым раёне.***

***З якімі праблемамі ёй даводзіцца сустракацца, над чым працуе псіхолаг кожны дзень, а таксама яе шчырыя парады - аб усім гэтым вы, паважаныя чытачы, зможаце даведацца з інтэрв'ю нашага карэспандэнта з псіхолагам Аленай НЕКРАШЭЎСКАЙ.***

***- Алена Анатольеўна, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе. Дзе вы нарадзіліся, вучыліся і г.д. ?***

- Свой расказ пра сябе я хачу пачаць з таго, што я сама маларытчанка, закончыла ў свой час СШ N 2 і паступіла ў Брэсцкі педагагічны інстытут. Закончыла, цяпер ужо універсітэт, я ў мінулым годзе па спецыяльнасці біялогія-псіхалогія, і мяне размеркавалі на работу ў СШ N 1 па другой маёй спецыяльнасці. Працую я пакуль толькі псіхолагам. Калі гаварыць пра сямейны бок жыцця, то я замужам, у нашай сям'і падрастае сын.

***- Скажыце, калі ласка, што аказала ўплыў на ваш выбар стаць менавіта псіхолагам?***

- Адразу магу адзначыць, што выбар гэты быў напалавіну выпадковым. Па-першае, таму што я ў дзяцінстве і юнацтве ўвесь час марыла звязаць сваё жыццё ў далейшым якім-небудзь чынам з медыцынай. Але з часам я зразумела, што медыкам я стаць не змагу. І вось пасля заканчэння школы зусім выпадкова пачула аб такой прафесіі, як псіхолаг, якая ўпершыню з'явілася ў нас у педінстытуце, і вырашыла туды паступаць. Я яшчэ не зусім добра ўяўляла ў той час, што гэта за прафесія, часткова блытала яе з прафесіяй псіхіятра. Але адчула, што атрымаўшы яе, буду неяк бліжэй да людзей і да іх праблем, і на падставе гэтага зрабіла свой выбар.

***- Скажыце, калі ласка, ці абмяжоўваецца ваша работа толькі ў першай гарадской школе. Мабыць, кола дзейнасці з'яўляецца намнога шырэй?***

- Афіцыйна лічыцца, што працую я толькі ў СШ N 1, але калі я ішла на работу, то мяне папярэдзілі, што з той прычыны, што я пакуль адзіны псіхолаг у раёне, то, магчыма, мне давядзецца працаваць не толькі ў першай гарадской школе. Канечне ж, я згадзілася з гэтым. Але адчуваю, што ў мяне дастаткова работы ў школе, разам з гэтым не адмаўляю ў дапамозе ўсім іншым. Магчыма, яшчэ не ўсе ведаюць, што можна да мяне звярнуцца. Але ў мяне былі канкрэтныя выпадкі, калі даводзілася працаваць не толькі з вучнямі нашай школы. Напрыклад, быў спецыяльны выезд у Макраны, кансультацыя па просьбе вучня з вёскі Велікарыта. Што тут можна яшчэ дадаць? Поле дзейнасці шырокае пакуль больш тэарэтычна, а практычна я пакуль больш працую ў СШ N 1.

***- Хоць вы працуеце псіхолагам яшчэ зусім мала часу, ці можна ўжо выдзеліць нейкія асноўныя праблемы, з якімі вам даводзіцца працаваць, з чым да вас звяртаюцца?***

- Я дапускаю думку аб тым, што праблем значна больш, чым вызначыла іх для сябе я. Але раскажу пра гэта на аснове таго, з чым мне за гэты час давялося сутыкнуцца практычна. Толькі на аснове назіранняў за вучнямі ў школе я ўбачыла мноства напрамкаў розных праблем для работы. Гэта і сярод дзяцей пачатковых класаў, сярэдняга звяна і асабліва сярод вучняў старэйшых класаў. Але, гледзячы на тое, з чым мне давялося сутыкнуцца практычна, у асноўным гэта праблемы падлеткавага ўзросту. Да мяне ўжо сёння прыходзяць на кансультацыю найбольш менавіта яны. У асноўным гэта вучні 9 - 11 класаў. І асноўныя праблемы, якія іх хвалююць, якія гэтыя вучні ўсведамляюць, гэта праблемы ўзаемаадносін з бацькамі, настаўнікамі, узаемаадносін з супрацьлеглым полам і, канечне ж, праблема разумення сябе. Таму што ўжо зараз падлеткі сустракаюцца з тым, што не ўсё зразумела з таго, што, як кажуць, творыцца ў душы, і яны, нават зрабіўшы нейкі ўчынак, не зусім згодныя з тым, як яны паступілі. І ўзнікае часта пытанне: «Чаму я гэта раблю? Які я чалавек?» У сваёй практыцы я ўжо выкарыстоўвала такія метады даследавання ў псіхалогіі, як анкеціраванне і тэсціраванне (індывідуальныя і групавыя). Я рабіла гэта для таго, каб выявіць адносіны вучняў да школы свайго будучага, спецыфіку ўзаемаадносін паміж бацькамі. Гэты метад работы дае нядрэнны матэрыял для гутарак класнаму кіраўніку з бацькамі і самімі вучнямі.

Што датычыць дзяцей пачатковых класаў, то там праводзіцца работа ў плане назіранняў, парад настаўнікам, а таксама карэкцыі паводзін і развіцця пазнавальнай сферы, лепшай адаптацыі маленькага чалавека ў коле сваіх аднагодкаў.

***- Алена Анатольеўна, раскажыце, калі ласка, як вы знаходзіце кантакт з вучнямі? Яны да вас прыходзяць самі ці вы іх шукаеце?***

- Калі я прыйшла працаваць у школу, то зусім не ведала ні класаў, ні саміх вучняў. І першы час перада мною стаяла задача пазнаёміцца з імі, хоця б зрокава, што яны сабою ўяўляюць. Але я не была пасіўным наглядальнікам, а ўсяляк імкнулася заявіць пра сябе. Для гэтага выкарыстоўвала свае ўрокі, праводзіла і праводжу гутаркі ў пачатковых класах для таго, каб дзеці давяралі мне, ведалі, што я ёсць у школе. Таксама наведваю ўрокі і класныя гадзіны. Калі я прыходзіла на апошнія, то ў час іх у мяне былі даверлівыя гутаркі - знаёмствы. Я дабілася таго, што вучні, у сваёй большасці, паверылі мне і пачалі давяраць. Пасля гэтых сустрэч, размоў вучні пачалі прыходзіць да мяне самі. Бываюць такія сітуацыі, што гутарка з тым ці іншым вучнем проста напрошваецца ў плане яго праблем. Напрыклад, я чую шмат разоў ад настаўнікаў, што ў вучня ёсць праблемы ва ўзаемаадносінах, узаемаразуменні, але я ўсяляк стараюся зрабіць так, каб гэты вучань сам пажадаў да мяне прыйсці ці проста вымушаны быў гэта зрабіць. У супрацьлеглым выпадку шчырай размовы атрымацца не можа. Таму што вучань успрымае мяне ў першую чаргу як настаўніцу, і калі я яму скажу, каб ён зайшоў да мяне ў кабінет, што нам патрэбна пагаварыць, то шчырай размовы ў такім выпадку не атрымаецца. Таму я раблю ўскосны падыход. Акрамя класных гадзін, на савеце прафілактыкі стараюся стаць на бок вучня, каб ён гэта адчуў, як адчуў тое, што я яго разумею. Пасля гэтага ён ужо адчувае нейкую патрэбу прыйсці да мяне і пагаварыць.

***- Я ведаю, што ў нашым раёне праведзена першая «прамая лінія» з псіхолагам, у якой вы прынялі ўдзел. Ці можаце расказаць аб выніках яе і, магчыма, якія праблемы выдзелілі тут для сябе?***

- Так, я згадзілася ўдзельнічаць у «прамой лініі», магчыма, толькі таму, што адчуваю: не маю права адмовіць, калі нехта мае патрэбу ў маёй дапамозе, як псіхолага. Магчыма, з аднаго боку, гэта для мяне было і крыху ранавата, таму што я, як псіхолаг, пакуль маю больш тэарэтычных ведаў, чым практыкі. Але ўсё ж такі я вырашыла паспрабаваць. І для мяне асабіста вынікі былі ў тым плане, што пашырыўся мой кругагляд у дадзенай сферы псіхалогіі, калі можна так сказаць. Я адчула, што гэта такое і якія цяжкасці псіхолаг адчувае ў завочным кантакце з субяседнікам. Цяжкасць заключаецца ў тым, што вельмі складана гутарыць, не бачачы субяседніка, яго вачэй і вельмі павярхоўна ўяўляючы сітуацыю, у якой развіваецца праблема. Павярхоўна, таму што няма магчымасці і часу ўсё да дробязяў удакладніць і зразумець, праблема існуе аб'ектыўна ці яна бачыцца толькі вачамі таго, хто пра гэта гаворыць. А гэта вельмі важна. Я не ведаю, ці змагла дапамагчы ўсім тым, хто мне званіў, але я шчыра хацела гэта зрабіць. Лічу, што ў цэлым тэлефон даверу прайшоў нядрэнна і кожны, хто званіў, атрымаў нейкую порцыю падтрымкі і, магчыма, зрабіў нейкі вывад для сябе сам. Таму што я не старалася даваць парады, а спрабавала навесці субяседніка на нейкую думку, каб ён далей вырашыў сам, як дзейнічаць у тым ці іншым выпадку. Тэлефон даверу яшчэ лішні раз пераканаў мяне ў тым, што асноўная маса праблем канцэнтруецца вакол падлеткавага ўзросту. Зноў жа гэта адносіны ў сям'і, школьныя справы і вуліца. Гэта значыць, усе тры асноўныя сферы, дзе мае нейкі кантакт падлетак.

***- Вы, напэўна, неяк уяўлялі сабе вашу будучую работу, калі заканчвалі ВНУ. Ці спраўдзіліся вашы надзеі, калі вы прыйшлі працаваць у СШ N 1?***

- Трэба сказаць, што з таго моманту прайшло не вельмі шмат часу. Але на сённяшні дзень я магу сказаць: задаволеная тым, што трапіла менавіта сюды. Асаблівую падзяку хачу выказаць дырэктару школы Пятру Паўлавічу Іолапу за цёплы прыём. Ён даў магчымасць напачатку адапціравацца ў калектыве і спакойна пачаць сваю работу. Мне таксама падабаецца настаўніцкі калектыў. І адзінае, чаго ў мяне пакуль тут няма, гэта свайго рабочага кабінета. Але ў гэтым не віна школы, кіраўніцтва, а проста няма пакуль магчымасці вырашыць гэтае пытанне. У той жа час адсутнасць рабочага месца не дае мне права не працаваць. Таму стараюся як мага лепш выконваць сваю работу ў тых умовах, якія ёсць. Не бяруся пакуль катэгарычна меркаваць аб выніках яе, але лічу, што многае ўсё ж удаецца. Калі пачынала працаваць, то думала, што будзе добра, калі хаця б да канца вучэбнага года да мяне сталі б прыходзіць вучні, ужо не гаворачы пра бацькоў. Прайшло толькі паўгода, і ўжо наладжаны цесны кантакт як з першымі, так і з другімі. І для мяне гэта вельмі важна. Цяпер галоўная задача заключаецца толькі ў тым, каб працаваць так, каб тыя, хто да мяне прыйшоў, не расчараваліся ў сваіх спадзяваннях.

***- Алена Анатольеўна, скажыце, калі ласка, ці дапамагаюць вам вашы тэарэтычныя веды па псіхалогіі ў выхаванні свайго сына?***

- Майму дзіцяці толькі тры з палавінай гады і невядома, якім яно будзе ў будучым. Думаю, калі сын стане дарослым чалавекам, толькі тады ў поўнай меры змагу меркаваць аб выніках сваіх намаганняў. Але на дадзены момант магу сказаць, што веды па псіхалогіі ў гэтай справе мне, канечне ж, дапамагаюць. Мабыць, больш не ў тым плане, каб ажыццявіць усё задуманае і выхаваць дзіця такім, якім я яго хачу бачыць. Таму што ў дадзеным выпадку не ўсё залежыць толькі ад мяне і выхавання. У многім гэта залежыць ад таго генатыпу, які ў яго ёсць, тых умоў, якія для яго стварыла не толькі я, але і дзяржава. Веды па псіхалогіі дапамагаюць у тым плане, што магу сабе растлумачыць усё тое, што я бачу, што назіраю ў паводзінах свайго дзіцяці. Таму што ў працэсе развіцця дзіцяці абавязкова маюць месца крызісныя моманты, назіраючы за якімі, некаторыя бацькі губляюцца, не ведаюць, што рабіць. Я стараюся будаваць свае паводзіны ў плане адносін з сынам так, каб не было нейкіх адмоўных вынікаў для вельмі ранімай псіхікі дзіцяці. Ранімай, таму што ва ўсіх дзяцей псіхіка ранімая. Я будую свае зносіны з сынам так, што калі будзе мінімум дапамогі, то каб хаця б было і мінімум шкоды. А наогул я стараюся, каб сын развіваўся ва ўмовах, дзе пануе ўзаемаразуменне, каб дзіцяці адчула, што яно асоба, што мае права прэтэндаваць на тое, на што прэтэндуем мы, дарослыя людзі. Я тут маю на ўвазе адносіны ў сэнсе павагі. І самае галоўнае, стараюся выхаваць свайго сына такім, каб ён верыў у свае сілы, каб ведаў, што ў яго жыцці ўсё будзе залежаць толькі ад яго самога, што ніхто за яго не вырашыць асабістых праблем. Гэта дае магчымасць яму паверыць у сябе. А гэта для чалавека вельмі важна.

***- Скажыце, калі ласка, дзеці, з якімі вы працуеце, часцей за ўсё з нядобранадзейных сем'яў ці ёсць таксама дзеці з сем'яў, дзе абстаноўка лічыцца спрыяльнай?***

- Адказваючы на гэтае пытанне, трэба растлумачыць, што паняцце нядобранадзейнай сям'і вельмі не канкрэтнае. Справа ў тым, што ў нашым жыцці іншы раз атрымліваецца так, што нядобранадзейнай лічыцца толькі тая сям'я, дзе бацькі п'юць ці не цікавяцца дзецьмі, абыякавыя да іх лёсу. Але бывае так, што сям'я з выгляду быццам бы і добрая, але для самога дзіцяці з'яўляецца нешчаслівай. Калі не паглыбляцца ў гэтыя падрабязнасці, то трэба сказаць, што дзеці, якія ў асноўным лічацца не праблемнымі ў школе, сям'і, нават часцей да мяне прыходзяць, чым іншыя. Акрамя таго, дзеці з непраблемных сем'яў нейкія больш адкрытыя, не закамплексаваныя. І яны не баяцца прызнацца ў тым, што ў іх ёсць нейкая праблема. А праблема ёсць у кожнага чалавека. У кожнага з нас. Ды і ў мяне таксама ёсць праблемы. Падлеткі, у прыватнасці, вельмі ранімыя, калі пытанне датычыць справядлівасці ці несправядлівасці. Падлеткі з нядобранадзейных сем'яў, магчыма, і хацелі б нечым падзяліцца, але яны менш даверлівыя і больш скрытныя. І, канечне ж, мне хацелася б, каб у далейшым больш і лепш развівалася работа менавіта з «цяжкімі» падлеткамі. У той жа час я не адмаўляюся ад дапамогі, магчыма, нават дарэмнай, падлеткам з больш даступным характарам. Але адзначу, што ўсё ж мне пакуль больш даводзілася сустракацца з дзецьмі, у якіх мінімум праблем. А вось з «цяжкімі» падлеткамі работа пакуль толькі-толькі пачынаецца. Таму што, прапрацаваўшы ў школе паўгода, з многімі з іх я толькі зараз пачынаю знаходзіць агульную мову і паступова заваёўваць давер.

***- Работа псіхолага заключаецца ў першую чаргу ў тым, каб дапамагаць людзям. А ці можа кожны чалавек разлічваць на гэтую дапамогу?***

- Так, мая галоўная задача - гэта дапамагчы чалавеку справіцца з той ці іншай праблемай. Не важна, гэтая праблема існуе аб'ектыўна ці яна суб'ектыўная. Так, аказаць дапамогу можна кожнаму чалавеку, але неабходна захоўваць умовы для таго, каб гэтая дапамога ўсё ж такі была эфектыўнай. Гэта, па-першае, і самае галоўнае, каб чалавек сам гэтага пажадаў. Калі чалавек сам не адчувае патрэбы прыйсці да псіхолага, а ідзе пад прымусам, то дапамога магчымая, але яна будзе базіравацца на тым, каб зноў жа адразу заваяваць давер, знайсці нейкі кантакт і наблізіцца да душы і праблемы гэтага чалавека, дапамагчы яму яе ўбачыць. Калі ж гэтага не атрымаецца, то нічога змяніць нельга. А калі дзіця, падлетак, ці дарослы чалавек прыходзіць сам і няхай ён пакуль яшчэ не можа сфармуляваць сваю праблему, але проста скажа, што мне патрэбна дапамога, што яму дрэнна, але ён не ведае чаму, то тут работа будзе, і хутчэй за ўсё яна будзе праводзіцца эфектыўна. Таму што чалавек сам гатовы да таго, каб нешта змяніць у сваім жыцці, ці змяніцца самому. Другая ўмова для такой работы, гэта каб быў дастаткова высокі ўзровень інтэлекту ў чалавека. Гэта неабходна для таго, каб ён неяк адэкватна ацэньваў сітуацыю, правільна ўспрымаў усё, што гаворыцца, і быў здольны на нейкі самааналіз. У супрацьлеглым выпадку змяніць чалавека ці яго погляд на тое, што адбываецца, немагчыма. Хаця б толькі таму, што чалавек проста не будзе разумець.

***- Алена Анатольеўна, ці хацелі б вы, як псіхолаг, асобна нешта сказаць для шырокай аўдыторыі?***

- Карыстаючыся магчымасцю, я б хацела звярнуцца да людзей і сказаць, каб яны не баяліся слова «псіхолаг» і не пагарджалі гэтай прафесіяй. Таму што яна створаная для таго, каб дапамагаць людзям. І я ніколі не паверу, што чалавек жыве беспраблемна. Хаця наогул можа быць і такое. Але ў кожнага чалавека, які думае, ёсць нейкія перажыванні. І перажыванні гэтыя могуць насіць характар сённяшняга дня, а ёсць праблемы, якія застаўляюць пакутаваць чалавека і праследуюць яго ўсё жыццё, мабыць, нават з самага ранняга дзяцінства. Таму я хацела б сказаць людзям, каб яны заўжды карысталіся магчымасцю, калі яна ўзнікае, пагутарыць з псіхолагам, спецыялістам. Таму што набалелая праблема, якая праследуе і хвалюе чалавека вельмі доўгі час, аказвае ўплыў не толькі на яго псіхалагічны, але і наогул фізічны стан. Гэта значыць, што ад гэтага могуць развівацца захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, страўнікава-кішачнага тракту, так як яны маюць псіхасаматычную прыроду.

Ну а ў новым годзе хочацца пажадаць, каб у кожнага з нас было як мага больш прычын для добрага настрою. Хочацца пажадаць усім людзям гармоніі. Гармоніі паміж унутраным «хачу» і рэальным «магу». Гэта, на мой погляд, галоўная ўмова псіхалагічнага і фізічнага здароўя.

***- Вялікі дзякуй.***

**Інтэрв'ю правёў Сяргей МОШЧЫК.**

